 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 53 (1755) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 31 СНЕЖНЯ 1989 г. ЦАНА 250 зл



ЗІМА Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ. Фота Я. Целушэцкага.




## ПРЫКОНЧЫЛІ НАС ЦІ НЕ?

**Рэфлексіі пасля тэлевізійнай перадачы „Otwarte studio“ пра нацыянальныя меншасці.**

Рэцэпт на тэлевізійную перадачу „Otwarte studio“ даволі просты. Аўтары загадзя рыхтуюць толькі тэму перадачы. Калі хочаш выказацца — прыходзь і давай. Раней трэба толькі пазваніць, што прыйдзеш. А то месца можа не хапіць. Трансляцыя перадачы непасрэдная. Аніякай цэнзуры. Што скажаш, тое тут жа і пачуе ўся Польшча. Калі пачнеш занадта буяніць, могуць схапіць за каўнер і выкінуць са студыі. Гэта адзіны кошт тэлевізійнай дэмакратыі, з якім трэба лічыцца. Усё іншае — задарма.

Хто паявіцца ў „адкрытай студыі“ ў пятніцу 8 снежня? Ці ёсць у Польшчы нацыянальныя меншасці?

Ёсць. Прыйшлі беларусы, літоўцы, украінцы, лэмкі, немцы, чэхі, славакі, македонцы. Не прыйшлі яўрэі. I цыганоў не было. Затое быў адзін сірыец. I прыйшлі палякі, якія ў студыі аказаліся якраз меншасцю перад усімі меншасцямі гуртам.

Пачалося, як усе мы бачылі, талкова і культурна. „Іншародцы“ сказалі па некалькі фразаў, нейтральных і банальных, прадставілі, так бы мовіць, свае народы ў польскай дыяспары. А далей пачалася нейкая фантасмагорыя, ні то фарс, ні то трагікамедыя. Цяжка мне дакладна ўявіць, якую карціну бачыў і што чуў глядач перад экранам. Я, седзячы ў студыі, бачыў перад сабою ўсю карціну і чуў кожнага паасобку і ўсіх гуртам ва ўсіх дыяпазонах голасу. На студыйныя маніторы паглядаў зрэдку. Але думаю, што ўсе мы, і там унутры, і перад экранамі, бачылі і чулі прыблізна тое самае. А бачылі і чулі мы спачатку, як абрынуўся на нас шквал знявагаў і ганьбаванняў, вытрыманых у тоне на грані шавіністычнай істэрыі. Ад нашых братоў палякаў. Як жа яны нас не абазвалі: і падкідышамі, і „пятай калонай“, і пярэваратнямі, і мала яшчэ чым. Ды нам што, напляваць. Колькі ж разоў даводзілася чуць падобнае пры іншых нагодах. Самі схацелі, самі прыйшлі, самі і атрымалі. Жывем у краіне вольнай і дэмакратычнай, як часта пагаворвае Сакрат Яновіч.

Атрымалася нешта не тое. Мелася быць спрэчка, дыскусія

(Праця́г на стар. 2)

## ПАСОЛ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Дарагія сябры, шматгадовыя нашы чытачы і тыя, што толькі пачалі чытаць „Ніву“! Сёння перадаем вам у рукі апошні ў гэтым годзе нумар нашай газеты.

Стаім на парозе Новага 1990 года, ад сакавіка — 35-га года існавання нашай газеты. У 1956 годзе першыя парасткі „Нівы“ ўдыхнулі цяпло і надзею ў анямеўшыя душы тутэйшых беларусаў.

Якая была гэта газета на працягу мінулых 34 гадоў? Напэўна бывала розная — спачатку больш сялянская, пасля ўсё больш арыентавалася на інтэлігенцыю, — але заўсёды старалася яна быць ласкавай і ўважлівай да сваіх чытачоў і карэспандэнтаў. Людзі, якія гуртаваліся вакол „Нівы“, адыходзілі ад яе вельмі рэдка (назаўсёды, абражаліся ў выключных выпадках і, калі б палічыць іх, не трэба было б нават пальцаў адной рукі). Былі яны вельмі прывязаны да нас. А дзеялася так таму, што „Ніву“ яны заўсёды лічылі сваёй газетай, газетай кожнага беларуса. Маглі ў „Ніву“ пісаць і ведалі, што кожны вартасны матэрыял будзе надрукаваны, маглі паведамляць нам аб фактах, якія мелі месца ў іх асяроддзі, і ведалі, што мы будзем рэагаваць, умелі, калі трэба, і пасварыцца з намі, даказваючы свае рацыі. Заўсёды маглі прыехаць у „Ніву“ з найбольш аддаленай вёскі, з кожнага закутка Польшчы, а таксама з-за мяжы — як з Усходу, так і з Захаду — і адчувалі сябе як сярод сваіх. Кожны мог у нас перадыхнуць, знайсці зразуменне, кожнага тут выслухалі, напаілі гарачым чаем.

З „Нівай“ было ім па дарозе. I не таму, дарэчы, што рэдакцыя „Нівы“ мясцілася ў цэнтры горада, куды вялі дарогі амаль кожнага прыезджага.

„Ніва“ была своеасаблівым мастом паміж Усходам і Захадам. Як жа часта паведамлялі нам з Мінска, што выкарыстаілі яны пададзеныя намі весткі аб жыцці беларусаў на Захадзе, за акіянам, а з Нью-Йорка — што дзякуючы нам яны маюць магчымасць шырока знаёміцца не толькі з беларусамі Беласточчыны, але і з жыццём беларусаў у БССР. Праз нашу газету далёкія сабе раней людзі збліжаліся, наладжвалі цесныя кантакты.

(Працяг на стар. 3)

 

## НА МЯЖЫ

# АБ ДЗЯРЖЫНСКІМ

Летам 1982 года Саюз польскіх пісьменнікаў паслаў мяне ў Маскву прыняць удзел у Днях Савецкай культуры. На месцы аказалася, што Дні будуць праводзіцца не ў Маскве, а ў Малдавіі. Вестка гэта мяне прыемна здзівіла. Я ніколі не быў у Малдавіі і мне было вельмі цікава пабачыць прыроду і сутыкнуцца з людзьмі гэтай рэспублікі. Паляцелі мы ў Кішынёў самалётам. На месцы ўжо былі многія вядомыя слаўныя пісьменнікі, між іншым, Булат Акуджава. Гаспадары паказалі нам сваю зямлю вельмі шырока. Выязджалі мы далёка па-за Кішынёў. Я першы раз у жыцці сутыкнуўся з дзесяткамі і сотнямі гектараў сланечнікавых і вінаградных плантацый. Малдавія рабіла ўражанне краіны заможнай і прыгожай.

Гаспадары арганізавалі нам аўтарскія сустрэчы. Мяне паслалі ў нейкае падраздзяленне міліцыі горада Кішынёва. Прысутнічала на маім выступленні чалавек сорак афіцэраў. Я расказаў прысутным аб нялёгкім становішчы ў Польшчы 1982 года. Гаварыў таксама аб жыцці беларусаў у Польшчы. Калі я скончыў, вядучы сустрэчу афіцэр сказаў, што сабраныя вельмі задаволены маёй інфармацыяй і ўрачыста заявіў:

— Мы в знак благодарности решили приподнести вам вашего славного земляка, а нашего патрона Феликса Эдмундовича Дзержинского.

Усе з энтузіязмам заляскалі ў далоні. Я, калі гаварыць шчыра, здранцвеў ад нечаканасці. Па-першае, мабыць, ад вякоў паэты не вельмі любіліся з паліцыянтамі. Па-другое, везці з Кішынёва ў Маскву і з Масквы ў Варшаву партрэт такой велічыні — гэта не простая справа. Па-трэцяе, калі б я перасякаў дзяржаўную мяжу з такім партрэтам, дык напэўна тамажнікі падумалі б, што ў яго рамках перавожу брыльянты, а за задняй аклейкай — рублі або долары. Па-чацвертае, Дзяржынскі не быў маім ідэалам, асабліва пасля таго, як я прачытаў Леніна, які называў Дзяржынскага і Арджанікідзе велікарускімі дзержымордамі за тое, што яны расправіліся з паўстанцамі Закаўказзя. Усё гэта перакрэслівала ўсялякі сэнс вязення мною Дзяржынскага з Кішынёва ў Маскву і з Масквы ў Варшаву.

Калі слухачы ўжо разышліся і астаўся ў зале толькі афіцэр, які вёў сход, я пачаў яго асцярожна адводзіць ад думкі ўручэння мне партрэта. Пастараўся я нават увесці як бы гумарыстычны матыў, сказаўшы, што Дзяржынскі па сутнасці не з'яўляецца маім земляком, бо ад маіх Бандароў, да Койданава болей чым трыста кіламетраў. На гэта афіцэр сказаў:

— Здесь пространство не играет никакой роли, главное — национальная и идейная близость!

Тады я пачаў тлумачыць, што я з'яўляюся беларускім селянінам, а Дзяржынскі быў польскім памешчыкам і, як вядома, паміж гэтымі класамі вялікай любові не было.

— Так вы говорите о древнем прошлом. Дзержинский отошёл раз и навсегда от идеалов и интересов своего класса и стал на сторону борющегося международного пролетариата. Будьте уверены, что присутствие Феликса Эдмундовича в вашей варшавской квартире во многом окрасит вашу жизнь.

Я яшчэ намякнуў, што могуць быць камплікацыі з тамажнікамі на мяжы, якія могуць распароць партрэт.

— Не беспокойтесь, никто не смеет тронуть пальцем портрет этого выдающегося чекиста, — супакойваў мяне афіцэр.

Вычарпаўшы аргументы, я замоўк і рабіў такую міну, быццам бы згаджаўся. Аднак папрасіў, каб мне адразу партрэт не давалі, таму што я не вяртаюся ў гасцініцу, а іду ў горад, і ў такой сітуацыі будзе ён мне перашкаджаць хадзіць па вуліцах. Афіцэр нават уцешыўся, сказаўшы:

— Это хорошо. Дело в том, что мы хотим сделать на портрете дарственную надпись, мы привезём вам портрет в гостиницу.

Пахадзіўшы па горадзе, я з непакоем вяртаўся ў гасцініцу. У пакоі падарунка яшчэ не было. Прылегшы, я прызадумаўся. Дайшоў да вывады, што партрэт Дзяржынскага ні ў Маскву, ні ў Варшаву не павязу. Пакіну яго ў гасцініцы. Зніму са сцяны нацюрморт, схаваю яго за шафу і на яго месцы павешу Дзяржынскага. Не думаю, каб нехта асмеліўся зняць са сцяны „караючы меч рэвалюцыі". Калі ўжо канчаткова рашыў пытанне, пачаў ізноў нервавацца: міналі гадзіны, а партрэта Дзяржынскага ніхто ў гасцініцу не прыносіў...

І не прынёс да канца майго прабывання ў Кішынёве. Чаму? Не ведаю. Ва ўсякім выпадку, выехаў з Кішынёва без „земляка".

Калі вяртаюся часам думкамі да гэтага, па сутнасці, гумарыстычнага здарэння, дык адчуваю нават удзячнасць да афіцэра і яго канцэпцыі. Увайшла яна ў маё жыццё як нешта арыгінальнае і, мабыць, непаўторнае. А як вядома, многія арыгінальныя і непаўторныя падзеі маюць у сабе гумарыстычныя элементы, без якіх наша жыццё было б манатоннае і малацікавае.

**Алесь Барскі**

# ПРЫКОНЧЫЛІ НАС ЦІ НЕ?

(Працяг са стар. 1)

пра наш супольны заўтрашні дзень, а палякі ўсё аглядаліся на дзень учарашні ды пазаўчарашні. І прымусілі нас усіх (маю на думцы ўсе нацыянальныя меншасці) азірацца таксама назад. Пачалі вылазіць прывіды і кашмары супольнай гісторыі, войны і варажнеча, адкрываліся незарубцаваныя раны памяці, у якой усплывала наверх толькі ліхое і благое. Атрымалі за сваё і немцы, і ўкраінцы, і мы, беларусы. Праўда, мы як быццам крыху менш. Усяго нам прычапілі толькі тое, што мы нібыта занадта шчыравалі ў пабудове камунізму ў Польшчы. А гары ён гарам, той камунізм пракляты! Колькі ж яшчэ прыйдзецца выпакутаваць беларусу з-за яго?

Ніхто з прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў не прыняў ні тону, ні накірунку дыскусіі на тэлебачанні. Дарма аднак было шукаць нейкай супольнасці інтарэсаў, нейкай тэмы, накіраванай у будучыню. Рэплікі міналіся ў паветры, ваявалі мы зусім іншай зброяй або на зусім іншых палях бою. Калі сказаць метафарычна, „іншародцы" прыйшлі на сутычку з лазернай зброяй, а на іх рушылі з сякерамі. Невядома, баяцца ці смяяцца?

У гонар палякам належыць сказаць, што пасля першага шоку ў студыю пачалі званіць. Людзі бачылі, што дзеецца нешта брыдкае, і ім было сорамна за сваіх. Вядучы прачытаў раз ці два перапросіны ад гледачоў за паводзіны палякаў перад камерамі. І я ўпэўнены, што шмат хто з палякаў будзе адчуваць сорам за гэтую перадачу. Шмат каму будзе абсалютна няўцям тое, што адбывалася падчас яе. Аднак большасць зрэагуе на яе прыблізна так: усё ж такі далі мы ім адпор.

Пачулі мы і прадстаўнікоў эндэцыі (нацыянальнай дэмакратыі), ажно з чатырох партый гэтага палітычнага накірунку. Прадстаўнікі дзвюх партый ідэалагічныя і праграмныя свае спрэчкі перанеслі ў студыю і падколвалі адны другіх, а адзін дзядзька (той лысы) прадстаўляў адразу дзве партыі. Здаецца, ён сказаў адну рэч, якую варта запамятаць нашым „тутэйшым" і ўсім „праваслаўным палякам". Эндэцыя не хоча, каб пад палякаў падшываліся нейкія пярэваратні, нейкія тутэйшыя ці чорт ведае хто. Эндэкі дапільнуюць, каб польскі народ не забрудзіўся нейкай непаўнацэннай прымессю. Вось так.

Што нам трэба думаць пра ўсё гэта? Наша газета чакае вашых меркаванняў, вашых адгалосак. Яны, па-мойму, павінны быць. Жыць нам сярод палякаў, і нікуды ад іх не падзенешся. Найважнейшае, мы не павінны баяцца. У мяне такое ўражанне, што палякі, пакуль што, нам не раўня ў дыскусіях на нацыянальныя тэмы. Яны проста яшчэ не бачаць гэтай тэмы і кідаюцца наслепа. Агульна кажучы, калі мець на ўвазе ўсё польскае грамадства, а не паасобных яе прадстаўнікоў. Пра нас мала хто ў Польшчы што-колечы ведае.

Нам трэба пастарацца зразумець. Зразумець тое, што пасля 45-гадовай блакады ў сродках масавай інфармацыі звестак пра нацыянальныя меншасці такі першы агульны форум мусіў выклікаць нечаканую рэакцыю. Нечаканую перад усім для саміх палякаў. Ім усё здавалася, што яны — народ надзвычай талерантны, а тут выйшла якраз наадварот. Урок талерантнасці яны мусяць вывучыць самі. Ні беларус, ні ўкраінец у настаўнікі ім не падыдзе. А нам яшчэ трэба зразумець, што ў палякаў глыбокая антыкамуністычная траўма. Таксама, агульна кажучы. Лячыць яе можна толькі дэмакратыяй, у дэмакратычным грамадстве. А яны стараюцца выбіць клін клінам. З аднае аўтарытарнасці ў другую. Учора ўся праўда была ў камуністаў, сягоння — у антыкамуністаў. І ніякая дэмакратыя з гэтага не атрымліваецца. Таму і разважаюць яны, супрацьстаўляючы сабе белае і чорнае. А нашы колеры — бел-чырвона-белыя.

**Ян Максімюк**



## ПОШТА

**Добры дзень, „Ніва" і „ніўцы"!**

Дзякую, што некаторыя з маіх вершаў убачылі свет у Вашай газеце. Праўда, адразу хачу задаць пытанне: ці магчыма атрымаць за іх ганарар? Канешне, за некалькі радкоў ён вялікім надта не будзе, але ўсё ж хацелася б атрымаць тлумачэнне: якім чынам ён выплачваецца жыхарам БССР і ці выплачваецца ўвогуле? Растлумачце нам, калі ласка, гэтую справу.

**Ігар Сідарук,**
**г. Кобрын**

**Ад рэдакцыі:** Усім аўтарам, чый матэрыял друкуецца ў „Ніве", налічваем ганарар, аднак замежным карэспандэнтам грошай за граніцу не высылаем. Можам ганарары трымаць у дэпазіце, напрыклад, на працягу года, і тады аўтар павінен прыехаць да нас і ўзяць грошы ў касе нашага выдавецтва. Большасць карэспандэнтаў з БССР просіць свае ганарары пералічваць у фонд пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. У сувязі з тым, што ваш ганарар быў адносна невялікі, мы вырашылі перавесці яго ў фонд Гайнаўскага музея, аб чым паведамілі ў „Ніве" № 48.

(Працяг на стар. 7)

# ПАБЫВАЎ У САНАТОРЫІ „КРЫНІЦА"

Распаложаны за 11 км ад Мінска на правым беразе Свіслачы, над галубой гладдзю вадасховішча „Крыніца", у гушчы беластволых бяроз і сасновых пагоркаў маляўнічы закутак беларускай прыроды — Ждановічы з'яўляецца любімым месцам адпачынку мінчан. Гэты курортны пасёлак заснаваны ў 1906 годзе мінскім лекарам Іванам Усцінавічам Здановічам. У 1922 годзе ўзнік тут дом адпачынку „Ждановічы". У шасцідзесятыя гады непадалёк былі выяўлены лячэбныя мінеральныя воды. Для іх выкарыстання ў 1966 годзе быў адкрыты санаторый „Крыніца". Працуюць тут лячэбнадыягнастычныя кабінеты, водалячэбніца, інгаляторый. Выкарыстоўваецца тарфяное гразелячэнне. У санаторыі лечаць хваробы органаў стрававання і абмену рэчываў. Далечваюцца таксама хворыя пасля вострага інфаркта міякарда. На працягу аднаго года прабывае тут каля 14 тысяч чалавек.

На падставе пагадненняў паміж Беларускім таварыствам „Радзіма" і ГП БГКТ, два пенсіянеры з Беласточчыны на працягу года атрымоўваюць накіраванне ў санаторыі Савецкай Беларусі дзеля паляпшэння свайго здароўя. У рамках гэтага пагаднення Міхась Хмялеўскі ў жніўні г.г. пабываў у санаторыі „Нарач", а я ў кастрычніку г.г. — у санаторыі „Крыніца".

Закватаравалі мяне ў адным пакоі з Рыгорам Скалковічам, беларусам з Аргенціны. Ад першага дня нашай пабыўкі ў санаторыі „генеральным рамонтам" нашых арганізмаў занялася нястомная доктар Галіна Антонаўна Макіёнак. Прыпісала яна нам рознага роду лячэбныя працэдуры: ультрагукі, парафінавыя абаграванні, жамчужныя ванны, масажы, інгаляцыі, мінеральныя воды. На аслабленыя сэрцы — прагулкі маляўнічымі алеямі па золаце восені пад нагамі і тратуарах уздоўж прасторнага вадасховішча „Крыніца". Харчаванне было добрае — чатыры разы ў дзень.

Клапаціліся ў санаторыі не толькі пра нашыя целы, але таксама і пра душы. Энергічны кіраўнік клуба Аляксандр Піліпавіч Бабініч запрашаў нас на ўсе культурныя мерапрыемствы. Амаль штодзень дэманстраваліся ў клубе цікавыя кінафільмы. Выступалі тут вядомыя беларускія спевакі, эстрадныя, харавыя і танцавальныя мастацкія калектывы, чыталіся цікавыя лекцыі.

Памятала таксама пра мяне і Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў БССР, якое арганізавала пяць аўтарскіх сустрэч. Два разы выступаў з вершамі ў санаторыі „Крыніца" (20 і 28 кастрычніка г.г.). Тры аўтарскія сустрэчы правёў разам з вядомым беларускім паэтам з Мінска Яўгенам Міклашэўскім. 24.Х. выступілі мы ў суседнім санаторыі „Беларусь", 26.Х. — у школьнай бібліятэцы імя М. Астроўскага ў Мінску перад вучнямі 6 і 7 класаў і 30.Х. — у 28 мінскай сярэдняй школе на вул. Горкага. Усюды прымалі нас вельмі сардэчна і прасілі прыязджаць да іх часцей. Кіраўніцтву Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў належыцца тут шчырая падзяка.

Асаблівую падзяку выказваю кіраўніцтву Беларускага таварыства „Радзіма" за запрашэнне, уладкаванне ў санаторыі і штодзённыя клопаты аж да самага ад'езду дамоў. А самае галоўнае, што пасля гэтага „генеральнага рамонту" арганізму ў санаторыі „Крыніца" з новымі сіламі магу ў далейшым працаваць на ніве беларускай культуры.

**Віктар Швед**

тыўныя заняткі па біялогіі да гэтай настаўніцы, без праблемы здавалі ўступныя экзамены ў медыцынскія акадэміі ці на аддзяленні біялогіі універсітэтаў. А дасягалася гэта агромністай працай з вучнямі — на працягу ўсяго навучальнага года і нават на канікулах. З вучнямі настаўніца працавала ў групах і індывідуальна. Найлепш падрыхтаваныя вучні, якія ўжо ўдзельнічалі ў конкурсах, станавіліся інструктарамі ў групах. Усе вучні, з якімі вядзецца дадатковая праца, пішуць працы на розныя тэмы і вядуць уласныя доследы. За свае 9 гадоў працы ў ліцэі Ніна Суліма напісала з вучнямі 80 навуковых прац, а іх тэматыка, ступень навуковасці выклікаюць здзіўленне нават у настаўнікаў гэтага прадмета. Даклад настаўніцы з Бельска быў адным з найбольш канкрэтных і цікавейшых на сесіі.



*На выстаўцы школьных дапаможнікаў.*

На гэтай жа сесіі выступіла яшчэ адна настаўніца з беларускай школы — Марыянна Пугацэвіч з бельскай падставовай школы № 3. Яна расказала аб сваіх дасягненнях у працы з вучнямі малодшых класаў. Сярод сямі-васьмігодкаў настаўніца вышукоўвае мастацкія таленты і працуе з імі некалькі гадоў. Спосаб Марыянны Пугацэвіч на абуджэнне ў малых дзяцей мастацкага густу, развіцця мовы і дэкламатарскіх здольнасцей — гэта інсцэнізацыя з дзецьмі казак на пачатак, а потым увядзенне іх у працу школьных тэатраў лялек. У бельскай „тройцы" працуе такіх тэатраў аж тры — кожны для адпаведнага ўзросту вучняў. Тэатр лялек з гэтай школы заўсёды займае вядучыя месцы ў конкурсах. Развіццё мастацкага таленту ў маленькіх дзяцей дае цудоўныя вынікі. Вучні гэтай школы займаюць перадавыя месцы і ва ўсіх беларускіх тэатральных і дэкламатарскіх конкурсах.

Сесія адбылася ў будынку адной са старэйшых школ нашага горада — у комплексе механічных школ. І гэта таксама невыпадкова. Нязменна папулярны сярод моладзі беластоцкі механічны тэхнікум навязвае ў сваіх традыцыях да рамесніцкага вучылішча, заснаванага ў Беластоку яшчэ ў 1921 годзе. Цяпер тут месцяцца, апрача пяцігадовага тэхнікума, трохгадовая прафесіянальная школа (спецыяльнасці — механік аўтамашын і апаратар апрацоўчых станкоў), трохгадовы механічны тэхнікум для працуючых, двухгадовая пасляліцэйная студыя са спецыяльнасцю — механіка машын і аўтамашын. У школе вельмі добра працуюць гурткі зацікаўленняў, мастацкія калектывы, а галоўнае, школа штогод займае першыя месцы ў конкурсе майстроў тэхнікі. Вучні школы падрыхтоўвалі для запрошаных на сесію гасцей выстаўку школьных дапаможнікаў, зробленых рознымі школамі, а таксама запрасілі гасцей-настаўнікаў паглядзець іх школьныя кабінеты і багатыя майстэрні, абсталяваныя ўласнымі сіламі вучняў і настаўнікаў.

Для прысутных на сесіі настаўнікаў і працаўнікоў асветы гэта сустрэча была адным са шматлікіх момантаў удасканальвання метадаў сваёй працы, а мне асабіста было прыемна бачыць, што настаўнікі беларускіх школ паказалі сябе ў авангардзе новых метадаў навучання. Ды наогул вельмі радасна бачыць і пераконвацца, што настаўнікі нашых, беларускіх школ укладаюць шмат сэрца ў працу з моладдзю, не шкадуюць на іх выхаванне ні сіл, ні ўласнага часу, ні працы.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**




**(Працяг са стар. 4)**

яе можна многа даведацца аб жыцці беларусаў на Беласточчыне і аб тым, што чуваць у беларусаў за мяжой ПНР. Вельмі прыемна зайсці ў рэдакцыю, калі паедзеш за пакупкамі ў Беласток. А так што? Без „Нівы" беларусы застануцца, як без часткі цела. Хто ведае, як пойдуць справы? Можа, БГКТ будзе ліквідавана і беларускія радыёперадачы?! Сумны час настаў.

Можа, хтосьці скажа, што я пераболышваю і зарана пачынаю плакаць. А можа ўсё будзе добра? Дай Божа, каб добра было, але, пакуль што, перад намі, беларусамі, вялікае невядомае. Быць нам або не быць нацыяй на людскім узроўні?

**Аўрора**

### ЦІ ПЕРАД НАМІ НОВАЕ БЕЗДАРОЖЖА?

Не ведаю, ці могуць на штонебудзь прыдацца мае заўвагі на тэму ўваходу дзейнасці БГКТ на новы этап, але не ўмею абыякава ставіцца да будучыні нашай справы. Таму, хоць, можа, і мала карыснай, думкай усё ж хачу падзяліцца. Чытаючы „Занатоўкі з пленарнага пасяджэння ГП БГКТ" („Ніва" № 48) даведваемся пра сур'ёзныя цяжкасці, якія ў сувязі з пераменамі ў Польшчы паглыбляюцца ў дзейнасці БГКТ, а няўпэўненасць наконт лёсу „Нівы" маркотнымі пачуццямі перапаўняе душу. Дык што? Няма выхаду? У тым, што БГКТ павінна дамагацца звароту прадпрыемства „Бэтэска", ніхто не павінен сумнявацца.

Тое, што на Захадзе газеты друкуюцца за кошт чытачоў і існуюць дзесяцігоддзямі, павінна рэдакцыю „Нівы" адвесці ад чорных думак пра будучыню. А за якія сродкі выдавалі „Нашу ніву"?

Беласточчына мяжуе з БССР. Беларусь у нейкай меры павінна цікавіцца лёсам беларусаў, пражываючых у Польшчы, тым больш, што польскія дзяржаўныя ўлады даволі сур'ёзна зацікаўлены палякамі ў Савецкім Саюзе. Ці не разумна было б стварыць — на дзяржаўным узроўні — польска-беларускую камісію ўзаемадапамогі і гарантый развіцця для сваіх меншасцяў?

Думаю, што шмат разумных прапаноў знайшлі б чытачы, калі б захацелі напісаць у рэдакцыю. Дык ці не варта звярнуцца да іх з такім заклікам?

**Анатоль Маўчун**

**Ад рэдакцыі:** Зараз беларускі грамадскі рух апынуўся ў цяжкіх матэрыяльных умовах і гэта можа пагражаць яго існаванню. Падтрымоўваем прапанову нашага карэспандэнта і будзем вельмі ўдзячны нашым чытачам за выказванні на гэтую тэму.




### КАЛЯДНАЯ НОЧ

Раз у год парабкі елі разам з панамі. Было гэта на куццю. Пані-ўдавіца, у якой працаваў Юстын Янчук, жыхар Навасадаў, загадала хуценька накрыць стол, каб ужо пры першай зорцы сесці да вячэры. Яства было поўна ўсялюсенькага ды і аб чарцы пані не забыла.

Калі выпілі да смаку ды паелі ўдоваль, пані звярнулася да Юстына:

— На цябе пакідаю хату і дабытак. Сама на пастэрку еду.

Да касцёла было яно не так і блізка. Юстын мігам зрыхтаваў сані, клікнуў на павозчыка і ўсё было гатовае, пакуль пані паспела выйсці на ганак. Абыйшоўшы сялібу пасля панінага ад'езду, праверыўшы замкі ў хлявах і аборах, Юстын падаўся ў кухню, ды скінуўшы світку, выцягнуўся на запечку. Ці гэта ад чаркі, ці ад дзённай стомы, але, мабыць, прыдрамаў. Не прайшло яно так многа часу, калі спахапіў яго нейкі шум. Юстын мігам усвядоміў, што ўся гаспадарка на яго галаве. Спрасонку ўжо было хацеў басанож выскачыць на панадворак, калі ўбачыў, што ў кухні нейкія людзі ёсць. Адны жанчыны. Пачаткова падумаў, што мо пані нейкіх гасцей прывезла, але ўсведаміў сабе, што ключ ад хаты гэта ж у яго. Якім цудам маглі прайсці? Аж раптам нешта загрукатала. Глядзіць Юстын — а з дуды, проста з коміна, панюсечка нейкая выскачыла ды, як добра знаёмая, да іншых далучылася. Юстын ужо і спалохаўся не на жарты. Цішком зноў на запечак цісну́цца пачаў. Скеміў, што няйначай, як з нячыстай сілаю дачыненне мае. Але тыя быццам бы і не заўважалі яго. Узіраецца Юстын цікаўна з-за печы, што, моў, там рабіць будуць.

— Хаця бы не вынеслі нечага, — паўтарае сам сабе.

А тыя на запечак проста лезуць. Зусім на Юстына ўвагі не звяртаюць. Глядзіць Юстын, аж адна запрэглася ў саху, другая правіць ёю пачала ды давай араць запечак, быццам бы поле. Зааралі, абсеялі просам, завалачылі ды чакаюць. А проса проста ў вачах расце. Не ведае Юстын, колькі прайшло часу, але ўжо і закаласілася, і даспела. Скумекаў тады Юстын, што няйначай, як гэта ведзьмы сабраліся. А тыя, абыйшоўшы запечак, праверыўшы даспеласць проса, схапіліся за сярпы ды давай яго жаць. Адны жнуць, другія ўжо малоцяць. Проса — проста цуда. Змалаціўшы, у пліце распалілі ды кашу давай варыць. Па кухні пах так і расплываецца. І калі каша была ўжо гатовая, давай яе прабаваць. Што спрабуе каторая з іх, дык і ў комін сама вылятае.

Калі ўсе вылецелі, падыйшоў Юстын да гаршчка ды вымазаў пальцам астаўшую рэштку. Папрабаваў і сам у комін вылецеў. Разглядаецца наўкола — а ён на нейкім багне апынуўся. Ды не сам. Глядзіць — а вакол танцы, музыка грае. І толькі самюсенькія жанчыны. Працірае Юстын вочы і сам сабе не верыць. А тут і пані яго разам з іншымі танцуе. Заўважыла яна свайго парабка ды і сунулася да яго:

— А якое ліха цябе сюды прынесла? А хто ж гаспадарку пільнуе?

Юстын і расказаў, як усё гэта здарылася. Пані азірнулася па баках, ці ніхто ўвагі на яе не звяртае, ды і кажа:

— Сядай на гэтага белага каня і хутка дамоў уцякай, а то інакш не выйсці табе жывым адгэтуль.

Юстыну не трэба было два разы паўтараць. Скокнуў на каня ды мігам на панадворку апынуўся. Прывязаў яго да жэрдзіны ў плоце ды ў хату. А там як быццам бы і нічога не было. Ужо і пані з пастэркі вярнулася ды неяк дзіўна да яго ўсміхаецца.

— Што з канём зрабіць? — пытае Юстын.

— З якім канём? — здзіўляецца пані.

Выходзяць яны на панадворак, а там да жэрдзіны бярозавае палена прывязана.

**Міхась Шаховіч**




Я ўжо старая баба, мне 65 год, а „Ніву“ чытаю здаўна. І вельмі цікавяць мяне „Сардэчныя тайны“, якія найбольш люблю чытаць. Сэрцайка, ты калісь вяло дыскусію на тэму „габарытаў“ мужчыны і наогул наконт дапасавання сексуальных партнёраў. Пісала пра клопаты жанчын, якія маюць партнёраў з надта вялікімі „габарытамі“. Выказваліся розныя жанчыны і тады мне падумалася, што маё жыццё ў палавых адносінах будзе заслугоўваць ўвагі, бо найгорш, калі трапіцца мужчына-разява. Тут патрэбны чалавек інтэлігентны! Паслухайце, як было са мною, можа, мой вопыт таксама прыдасца некаму.

Калі мне было 16 гадоў, выйшла я веснавою парою, вечарком, на панадворак, а з суседняй хаты выбег хлопец, 18-годак, ды кажа: „Хадзі, я табе штосьці скажу!“ Я пайшла, а ён завёў мяне за клуню, абняў, прыціснуў да сябе, пачаў мяне цалаваць. Я была ў адной сукенцы і адчула, што яго „габарыты“ (не ведаю, ці гэта адпаведная назва, бо ў нас інакш называюць, але няхай будзе так) да мяне дакранаюцца. Задрыжала я ўся і падумала: „Што гэта будзе?“ І чакала. А ён падняў сукенку і сваім „габарытам“ дакранаецца да мае бародкі. Я крычу, каб пусціў мяне, а ён затросся, потым адвярнуўся ад мяне, я адчула, што кульша мокрая, нехочучы дакранулася рукою, а там нібы смаркачы. Гэтым ён мяне так збрыдзіў, што я не магла глядзець на хлопцаў і да сябе іх блізка не падпускала.

І так жыла, пакуль не стукнула мне 22 гады. Тады прыехаў з другой вёскі хлопец у сваты, я яго не хацела, але бацькі прымушалі. Казалі: „Будзеш сядзець у хаце старой дзеўкаю. Ёсць хлопец, дык валяй ды хаты не завальвай!“ Ну што ж, пастараліся зрабіць вяселле, спрасілі гасцей, усё адбылося як трэба. Я з гэтага ўсяго на сваім вяселлі піла вельмі многа. Потым муж мой завалок мяне ў ложак, які стаяў у каморы, распрануў мяне дагала... Што было далей, не памятаю дакладна, але раніцай я не магла прыйсці ў сябе. Уся пасцель была ў крыві. Дарагое Сэрцайка, вер мне, што я не падпусціла мужа да сябе праз цэлы наступны тыдзень, пакуль бацькі не прыехалі з пірагамі. Тады зноў пахмялілася ды мужа прыняла, а ён зваліўся на мяне і соўгаў як валком у таўканіцу, пакуль не сагнаў ахвоту — аж ува мне ўсё трашчала, ды зноў пайшла кроў і ўсё балела. І зноў я цэлы тыдзень не падпусціла мужа да сябе. У той час бабы не думалі пра лекараў ці нейкія ўколы. Пасля я вымушана была дазволіць здзеквацца нада мною, бо ён хацеў мяне выгнаць, і так мучылася пару гадоў, не адчуваючы ніякага задавальнення. Аднойчы пякла я хлеб, усадзіла ў печ ды прылегла адпачыць, бо так упацела, што аж усё на мне было мокрае, а муж прыйшоў ды кажа: „Давай, пакуль хлеб упячэцца, адбудзем павіннасць!“ — ды давай выконваць „павіннасць“. Але вельмі мяне здзівіла, што неяк абыйшлося без болю. І ён сказаў: „О, сёння дык іншая справа!“ Неўзабаве, аднак, мой муж загінуў у выпадку. Паколькі ў нас дзяцей не было, яго бацькі прагналі мяне да сваіх бацькоў.

Мала я была ўдавою, бо пасватаўся да мяне ўдавец. Я яго пакахала, але замуж ісці баялася. Ён усё дапытваўся, чаму не хачу. І тады я яму расказала, як цяжка мне было жыць з першым мужам. А ён кажа: „Не бойся, са мною будзе інакш!“ І мы пажаніліся. Леглі спаць, а я кажу: „Асцярожна, бо я баюся!“ Распрануў ён мяне дагала ды кажа: „Ты ляжы ды прыслухоўвайся!“ Ага, яшчэ перша сказаў: „Паглядзі, якія ў мяне мілыя „габарыты!“. Я рукою ўзялася і ён узяўся і яшчэ застаўся канец. Не ведаю, ці гэта малыя, ці вялікія. Рассунь, кажа, ножкі, потым пагладзіў дзе трэба, а пасля ўзяў і пацалаваў. Я толькі ляжала ды прыслухоўвалася, як ён мне і загадаў. Пасля налёг на мяне, дакрануўся сваім „габарытам“, але ў сярэдзіну не пёр, бы таўкача, і кажа: „Бачыш, табе не балела, а мне і так добра“. І мне трошкі было добра. Праз гадзіну ізноў паўтарыў, але ўжо паплыў крыху далей, а я не адчувала ніякага болю. Тады ён кажа: „Я адчуваю, калі можна паехаць далей: тады, калі твае органы пусцяць смараванне, тады можа быць націранне!“

І так мы пражылі разам многа год і ніколі мне не балела пры палавых зносінах і я заўсёды мела прыемнае адчуванне. Выгадавалі мы дачушку, у яе ўжо свая сям'я, а я вось засталася ўдавою і жыву сёння адна. Нядаўна мужа пахавала. Дай Бог пакой яго душы! Але, каб знайшоўся які ўдавец з добрымі „габарытамі“, то прыняла б.

**Схолька**

Шаноўная Схолька, спадзяемся, што на ваш ліст адгукнуцца зацікаўленыя чытачы і вы яшчэ будзеце мець шанцы падзяліцца з кімсьці сваім багатым сексуальным вопытам.

**Сэрцайка**




### ЯБЛЫЧНЫ КРЭМ

На 1 шклянку салодкай смятанкі трэба ўзяць 30—40 дэкаў яблыкаў, 4 яйкі, 5 лыжак цукру, 4 поўныя лыжачкі жэлаціну, лімонную скурку ці лімонны арамат (у крайнім выпадку можна ўзяць ванільны).

Яблыкі разварыць у вадзе з цукрам, працерці праз сіта і астудзіць. Збіць на цвёрдую пену бялкі, дадаючы пад канец цукар, спалучыць іх з жаўткамі, жэлацінам (распушчаным у халоднай вадзе, а пасля загатаваным у некалькіх лыжках гарачай), з яблычным перацёрам, лімоннай скуркай і астудзіць. Калі маса крыху згусцее, трэба яе далікатна спалучыць са збітай смятанай, тады пералажыць у шкляныя чаркі ці місачкі, а калі застыне, падаваць на стол, упрыгожыўшы цертым шакаладам ці сушанымі фруктамі. Можна таксама ўпрыгожыць крэм збітай какаовай смятанкай, пасыпанай пасечанымі арэхамі ці міндалем.

**Гаспадыня**

### ВЕР-НЕ ВЕР

Прыснілася мне, што ўсе супрацоўнікі „Нівы“ ехалі невялікім аўтобусам. Ведаю, што наш шэф ездзіць малым „фіатам“, а тут быццам бы гэты цэлы аўтобус — яго ўласнасць. І наш галоўны рэдактар кіруе гэтым аўтобусам. Кудысьці едзем, але не ведаем куды. Дакладнай мэты ніхто не ведае. Едзем па нейкай дарозе, а ўся дарога парэзана нейкімі ямамі. Адны ямы плытчэйшыя, а другія большыя і глыбейшыя. Нечакана перад намі паявіўся круты паварот. І я бачу, што зараз жа за паваротам страшэнная прорва. Наш галоўны рэдактар напружыўся, стараецца круціць рулём, каб не ўваліцца ў гэтую прорву, а мы ўсе страшна баімося. Перахіліліся на адзін бок, каб занадта не абцяжарваць аўтобус і каб не ўваліўся ён у прорву. А наша карэктарка крычыць: „Ратуйцеся, бо загінем!“ І мы ўсе яшчэ больш перахіліліся на другі бок. Неяк аднак наш рэдактар машыну вывеў на добрую дарогу. Здавалася, што ўжо ўсё будзе добра, але раптам бачу, што і з аднаго і з другога боку глыбокія ямы. І аўтобус то ўязджаў у некаторыя ямы, то зноў выязджаў на роўную дарогу. Мы ўсе баяліся выходзіць, каб не ўваліцца ў гэтыя ямы. Высветлілася, што ў аўтобусе было намнога больш людзей, чым працуе ў нашай рэдакцыі. І больш з гэтага сну я нічога не памятаю. Мяркую, што абазначае ён кепскае для нас. Надвор'е ў маім сне было нейкае шэрае, сумнае, не надта добрае.

**Геня**

Геня! Што датычыць крутых паваротаў, то яны цяпер чакаюць не толькі „Ніву“. А што за гэтым будзе — сказаць цяжка. Тыя ямы, напэўна сведчаць пра вялікія клопаты, якія давядзецца, бадай, перажыць рэдакцыі. Тое, што было там шмат людзей, сведчыць аб утраце самастойнасці, а паводле новых прынцыпаў павінна быць якраз наадварот.

А можа ты проста занадта перанялася ўсёй сітуацыяй? Можа якраз усё будзе добра, і твой сон не будзе сном прарочым, а проста прысніўся ён табе таму, што думаеш пра гэтыя справы, што навеяны ён рэчаіснасцю.

**Астрон**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Гражына Галавачык з Кленік — I месца і ўзнагарода „Зоркі“ для старэйшых*



*Аня Зін са школы № 3 у Гайнаўцы — I месца і ўзнагарода „Зоркі“ для малодшых*

## ПАДСУМАВАНЫ ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС

9 снежня ў Беластоку адбыўся беларускі дэкламатарск конкурс для вучняў падставовых школ. Тэмай сёлетняга конкурсу была „Беларусь“. Арганізатар — Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства — сёлета кіраваў увагу дзяцей і настаўнікаў на патрыятычныя беларускія мастацкія творы, на развіванне ў моладзі імкнення пазнаваць нашу літаратуру, гісторыю, культуру традыцыі. Як і ў папярэднія гады, мэтай конкурсу было развіццё зацікаўлення дзяцей жывым мастацкім беларускім словам.

Раней дэкламатарскія конкурсы адбыліся ў школах, а потым у раёнах.

На фінальны агляд у Беласток прыехала 19 удзельнікаў з малодшых класаў (II—V) і 11 — са старэйшых класаў (VI—VIII) са школ Бельска Гайнаўкі, Нарвы, Орлі Кленік Ласінкі, Трасцянкі Дубічаў-Царкоўных, Курашава, Махнатага, Храбалоў Ішукоў.

Са сцэны ў беларускім клубе на Варшаўскай прагучалі вершы і проза беларускіх пісьменнікаў з БССР і з Польшчы. Натхнёна цудоўнай літаратурнай беларускай мовай дэкламавалі вучні нават наймалодшых класаў. Колькі працы ўлажылі ўсе фіналісты разам са сваімі настаўнікамі над выпрацаваннем такіх мастацка ўданых выступленняў! Ды і масавасць гэтага конкурсу гаворыць сама за сябе. Хочуць нашы дзеці развіваць свае асабістыя таленты, хочуць пазнаваць нашу багатую беларускую літаратуру, хочуць выказваць свае пачуцці да айчыны — і той малой, уласнай, як айчынны дом, і той вялікай, нашай супольнай Беларусі. Прыгожа была ўдэкаравана сцэна, дзе ад-

(Працяг на стар. 10)



*Дэкламатары малодшых класаў з бельскай школы № 3.*



*Аня Томчук са шко... № 3 у Бельску — II месца*

ПРЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ

Пятрусь Макаль

### КРАСУНЯ ЁЛКА

Прыйшла красуня ёлка  
Уцехай для вачэй  
І ззяе, як вясёлка,  
Ярчэй,  
Ярчэй,  
Ярчэй.

Нас запрашае казка:  
Адчынены ўваход.  
Гэй, дзеці, калі ласка,  
У шумны карагод!

Пабраўшыся за рукі,  
У срэбранай цішы  
Ля ёлкі без прынукі  
Паскачам ад душы.

У гэтым карагодзе  
І дзеці і звяры  
Сышліся ў добрай згодзе,  
Як даўнія сябры...

Ах, як прыгожа мішка  
Танцуе — любата!  
І не ўцякае мышка  
Ад мудрага ката.

Тут воўк, адкрыўшы зяпу,  
Ад радасці зароў:  
Ён ціснe зайцу лапу,  
Як лепшаму з сяброў...

— Мне сорам, дай ты веры, —  
Прамовіў воўк з жальбой. —  
Нашто я, брат мой шэры,  
Ганяўся за табой?..

Убор зіхоткай ёлкі  
Вясёлкаю цвіце.  
Сяброўскі круг суполкі  
Расце,  
Расце,  
Расце...

Бясконца — сіл не шкода! —  
Мы б карагод вялі,  
Каб толькі лад і згода  
Былі на ўсёй зямлі.



Міхась Пазнякоў

### ЗІМА

Разгулялася наўкруг  
Юная мяцеліца,  
Лебядзіны белы пух  
Мне пад ногі сцелецца.

Зіхаціць уся зямля  
Радасцю святлістаю,  
І таптаць шкадую я  
Коўдру серабрыстую.

(Працяг на стар. 10)

# РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Каталік** — стада мурлыкаў.
**Катлета** — сезон для мурлыкаў (сакавік).
**Кітай** — акіян з кітамі.
**Клубень** — наведвальнік клуба.
**Крытык** — дах або чалавек, які ўкладае дах.
**Ласіца** — жанчына (ласкавая).
**Ледавік** — мароз.
**Лёскат** — няшчасце.
**Ліпень** — назойлівы чалавек.
**Лічылка** — бухгалтарка або касірша.
**Лютет** — засуха.
**Лянок** — хлопчык-гультай.
**Лятун** — самалёт.
**Малярыя** — майстэрня мастака-жывапісца.
**Мамант** — каханак мамы.
**Манашка** — ілгунка.
**Маніфест** — супер ілгун.
**Маршал** — пехацінец.
**Маскарад** — смех.

**„ядань“**

## ВЫКРУЧВАЕЦЦА

— Еш, хоць распеpажыся, толькі рабіць не лянуйся. Чуў такое выслоўе?
— А ты — другое?
— Якое?
— Есці дай, выпіць дай, а працы не пытай.

## НЯЎДАЧНІК

— Хто ты, Сямён Сямёнавіч?
— Лепш не пытайся!
— Бяздольнік?
— Не.
— Небарака?
— Не.
— Марнік?
— Не.
— Тады, можа, ты няўдачнік?
— Ага.
— З-за чаго?
— Ужо тры гады корпаюся, а ўсё ніяк не магу закончыць домік на дачы.

## БАЦЦА ЗАМУЖ

— Не хочацца, як лянівому каню ў аглоблі.
— Што рабіць?
— Замуж ісці баюся.
— Чаму?
— Бацькі далёка, дык дзетак самой гадаваць давядзецца.

**Браты Бароўкі**

# НІЎКА

HOLY

# АФАРЫЗМЫ

Чалавек з'яўляецца грамадскай істотай, але толькі да граніц сваёй скуры.

*

Гэта чалавек загадаў праўдзе ілгаць.

*

Там, дзе ўсё важнае, чалавек не найважнейшы.

*

Голас народа ўжо не раз бываў голасам Іова.

*

Бяздушны чалавек — гэта неабавязкова атэіст.

*

Вера ў чалавека бывае каштоўнай. Часта перавышае яго вартасць.

**Веслаў Маліцкі**

# КРЫЖАВАНКА З ЁЛКАЙ

**Управа наўскос:** 1) калядная на небе, 3) імя беларускага паэта, 5) цяпер у хаце, 8) рыбіны яечкі, 9) з'еўшы кіслае, 12) зімой яго носіш многа, летам — мала, 13) фізічнае самаадчуванне або душэўны настрой, 14) вылучэнне складу ў слове, 16) белае, не толькі зімой, 19) жыве на вельмі далёкім усходзе, 21) свабода, незалежнасць, 22) свята нараджэння Хрыста, 25) скрытае, непрыстойнае дзеянне, 27) пэўная доля, элемент, 29) раждэственная святочная песня, 30) 6 студзеня 1990 г. 31) не адзін на галаве, 35) кавальская майстэрня, 36) ставіцца ў тэатры, 38) сваяк, 40) пасля ночы, 42) спалучэнне гукаў, 43) калі цячэ з носа, 45) імя сучаснай беларускай паэтэсы.

**Улева наўскос:** 2) снегавая на зямлі. 4) лясны звер з сям'і куніцавых, 6) цяпер на двары, 7) драпежніца, што жыве ў нары, 10) насып вакол сцен, 11) вучань Хрыста, 14) ноччу не спіць, 15) старажытны народ, які жыў на тэрыторыі сённяшняга Перу, 17) можа гарэць на ёлцы, 18) Бог у мусульман, 20) кароткія, звонкія гукі, 23) мана, 24) ахоўвае каго-небудзь, 26) наш першадрукар, 28) 1 студзеня, 32) доктар, 33) сярод лёгкаатлетаў, 34) гультай, абібок, 37) канюшня, 39) не парадак, 41) дрэва на ёлку, 42) верш, які можна ўлажыць з сенату, 44) загадчык у лесе, 46) бойка, калатнеча.

**„ядань“**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r włącznie
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 3.250 zł + 1.300 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

– prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
– rezerwacja w tzw teczkach (we wszystkich kioskach).
– prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach)

Zam. 1790/89. Nakład 5.300. T-3.